

Інфармацыйны бюлетэнь
г. Ашмяны

# Грамадзянскі ФОРУМ

The bulletin is made up on the equipment given by US Information Agency (USIA)

№17 (23) 1 – 15 верасня, 2000 г.


# “Тройка” замест назіральнікаў



Вольфганг Берэндт

**Аб'яднаная Еўропа не збіраецца прысылаць сваіх назіральнікаў на выбары ў Палату прадстаўнікоў 15 кастрычніка. Заходнія дэмакратыі лічаць, што гэтыя выбары не будуць дэмакратычнымі, свабоднымі і справядлівымі. Чатыры ўмовы, пастаўленыя перад беларускімі ўладамі — спыніць рэпрэсіі па палітычных матывах, дэмакратызаваць Выбарчы кодэкс, прадаставіць апазіцыі магчымасць выступаць у электронных СМІ і пашырыць паўнамоцтвы парламента — не выкананыя. Тым не менш, на час выбараў у Мінск прыедзе чарговая “тройка” прадстаўнікоў еўрапейскіх структураў.**

У чацвер, 7 верасня, у Парыжы прайшло паседжанне Бюро Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы, прысвечанае восеньскім выбарам у Беларусі. На ёй былі ўхваленыя рэкамендацыі, прынятыя 31 жніўня ў Вене на Трэцяй тэхнічнай канферэнцыі АБСЕ па пытанні правядзення дэмакратычных выбараў у Беларусі.

Вольфганг Берэндт, адмысловы дакладчык па Беларусі ў ПАСЕ, паведаміў радыё “Свабода”, што ў час выбараў 15 кастрычніка ён будзе прысутнічаць у Мінску ў якасці прадстаўніка ад Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы. Разам з ім на выбары прыедуць па адным чалавеку ад Еўрапейскага парламента і Парламенцкай асамблеі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. На думку В Берэндта, хутчэй за ўсё гэта будуць адпаведна Ян Марыус Віерсма і Адрыян Севярын.

Нягледзячы на прысутнасць гэтых трох асобаў у Беларусі падчас выбараў, гэта не будзе лічыцца назіраннем, заявіў Вольфганг Берэндт. І, такім чынам, адсутнасць міжнародных назіральнікаў на выбарах не дазволіць Еўропе прызнаць новы “парламент”, абраны па лукашэнкаўскім Выбарчым кодэксе, дэмакратычным органам улады.

Прадстаўнік ПАСЕ таксама назваў “праўдападобнай” магчымасць, што беларускія выбары пры фактычнай адсутнасці назіральнікаў не будуць прызнаныя міжнароднай супольнасцю: “Паколькі высунутыя міжнароднай супольнасцю ўмовы не былі дастаткова выкананыя, гэтыя выбары нельга трактаваць як свабодныя і справядлівыя”.

Па словах Вольфганга Берэндта, прыезд “тройкі” еўрапейскіх структураў у Беларусь мае больш сімвалічнае значэнне для ўладаў: маўляў, вы крыху пайшлі нам насустрач, і мы таксама зробім маленькі крок. Але не болей за тое.

У той жа дзень у Страсбургу Еўрапейскі парламент таксама праводзіў свае паседжанне, прысвечанае Беларусі. Было вырашана накіраваць кіраўніка дэлегацыі Еўрапейскага парламента па справах Беларусі, Малдовы і Украіны Яна Марыуса Віерсму ў склад “тройкі” для візіту ў Беларусь.

*«Наша Свабода»*

# На пяць хвілінаў у Нью-Йорк – і назад

**Буйнейшая падзея ў свеце міжнароднай палітыкі – "Саміт Тысячагоддзя", наладжаны ў Нью-Йорку Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў, завяршыла сваю працу – без Аляксандра Лукашэнкі. Беларускі кіраўнік пакінуў мерапрыемства ў дзень яго адкрыцця, амаль адразу пасля таго, як скончыў сваю прамову.**



**Групавы здымак удзельнікаў "Саміта Тысячагоддзя". А.Лукашэнка - першы шэраг, другі злева.**

Ад'езд Аляксандра Лукашэнкі з Нью-Йорка стаў нечаканасцю для многіх. Асноўнай версіяй, чаму беларусы так тэрмінова сталі пакаваць валізкі, стаў той факт, што А.Лукашэнку не запрасілі на афіцыйны прыём з нагоды адкрыцця "Саміта Тысячагоддзя". Па словах чыноўнікаў з ААН, якія пажадалі застацца невядомымі, імя беларускага лідэра выкрасліў з ліста запрошаных асабіста Біл Клінтан. Як гаспадар форуму, дарэчы, ён меў на тое поўнае права. Хутчэй за ўсё, раз'юшаны А.Лукашэнка вырашыў гучна бразнуць дзвярыма перад носам усёй сусветнай супольнасці і яшчэ раз даказаць свой выбуховы і непрадказальны характар. Некаторыя крыніцы нават сцвярджаюць, што А.Лукашэнку *адзінага* не запрасілі на ўрачыстасці.

Прэс-сакратар міністэрства замежных справаў Беларусі Павел Латушка, аднак, паведаміў, што падарожжа А.Лукашэнкі ў Нью-Йорк ад самага пачатку планавалася кароткатэрміновым — разлічаным на адзін дзень. Таму ніякай нечаканасці тут быць не магло. Трэба разумець, што А.Лукашэнка ад пачатку ведаў – яго не запросяць.

Міжнародны каардынатар Хартыі'97, былы намеснік міністра замежных справаў Беларусі Андрэй Саннікаў так пракаментаваў для Радыё "Рацыя" гэты факт: "На "Саміт Тысячагоддзя", які ладзіць ААН, непатрэбнае запрашэнне. Лукашэнку таксама ніхто не запрашаў. Ён як прадстаўнік краіны-удзельніцы і заснавальніцы ААН мае поўную магчымасць паехаць туды. Але ён не запрошаны на афіцыйныя мерапрыемствы ў сувязі з гэтым самітам. Там рыхтуюцца пэўныя прыемы на ўзроўні прэзідэнтаў, але ён не атрымаў ніякіх запрашэнняў".

Магчыма таксама, што даверлівыя заходнікі проста не зразумелі асаблівасцяў славянскага характару. Па правілах агульнага этыкету, вельмі недыпламатычна, няветліва і непрыгожа выказвацца самому і не выслухоўваць суразмоўцу. Але менавіта так атрымалася на саміце. Аляксандр Лукашэнка прыляцеў у ЗША з Кубы ад сябры Фідэля, хуценька зачытаў сваю прамову і гэтаксама тэрмінова ад'ехаў, не пажадаўшы паслухаць, што будуць далей казаць ягоныя калегі-кіраўнікі іншых дзяржаваў: больш за 180 прэзідэнтаў, прэм'ер-міністраў, каралёў, прынцаў і г.д. На семага верасня былі запланаваныя выступы 70 лідэраў, яшчэ 70 маюцца выступіць восьмага. Выніковыя дакументы саміту засталіся без подпісу прадстаўніка ад Беларусі.

Лідэры іншых дзяржаваў проста не маглі зразумець, чаму яны мусілі выслухоўваць А.Лукашэнку, а ён іх– не пажадаў. І палічылі, што той на нешта пакрыўдзіўся. Бо іншым чынам рацыянальны розум не можа патлумачыць гэты ад'езд, больш падобны да ўцёкаў.

Пра што ж даводзіў А.Лукашэнка лідэрам краінаў свету ў адведзеныя яму пяць хвілінаў? Выступ пад урачыстай назвай "Беларусь адкрытая для сяброўства і супрацоўніцтва" традыцыйна ўтрымліваў рознага кшталту нападкі на заходнія дэмакратыі. Пасажы пра тое, што "невялікая група дзяржаваў вяршыла лёсы свету, разглядаючы астатнія нацыі і народы як бяспраўную масу", "правы чалавека і дэмакратыя ўсе часцей выкарыстоўваюцца некаторымі дзяржавамі як нагода для пакарання няўгодных краінаў і нацыяў" і пра "спробы моцных дзяржаваў "прычасаць" усіх пад адну грабенку", зноўку даказалі, што ўсе добрыя пачуцці А.Лукашэнкі скіраваныя выключна на Усход.

Хаця ніводнай канкрэтнай дзяржавы ён не называў, але было зразумела, што абразы прызначаныя збольшага для гаспадароў форуму — ЗША. "Прайшоўся" беларускі лідэр і па ААН, заявіўшы, што "ААН не ў поўнай меры можа зладзіць з задачай прадухілення агрэсіі і ўзброеных канфліктаў".

Не дзіва, што пасля такой прамовы заставацца ў Нью-Йорку было А.Лукашэнку недарэчы. Не дадала яму, відаць, асаблівай прыемнасці і дэманстрацыя з некалькіх дзесяткаў прадстаўнікоў беларускай абшчыны ў ЗША, якія, па сведчанні Радыё "Свабода", на працягу дзвюх гадзінаў на Парк-авеню і 50-й вуліцы выступалі супраць усталявання дыктатуры ў Беларусі і трымалі плакаты: "Лукашэнка дыктатар", "Далоў Лукашэнку!", "Спыніць расейскую акупацыю Беларусі!", "Няхай жыве БНР!", "Жыве Беларусь!".

Дарэчы, напярэдадні саміта мэр Нью-Йорка Рудольф Джуліяні заявіў, што ягоныя ўдзельнікі будуць ахоўвацца лепш, чым у якой-небудзь іншай кропцы свету. Аднак, як сказаў Р.Джуліяні, на яго ўласную думку, некаторыя з тых, хто прыехаў на саміт, з'яўляюцца пачварнымі і жахлівымі істотамі, і аб гэтым варта нагадваць ім кожны раз, як толькі выпадае магчымасць.

Якія вынікі гэтага візіту і колькі ён каштаваў беларускаму падаткаплацельшчыку – нам з вамі? Прэс-сакратар МЗС Павел Латушка заявіў, што не варта падлічваць, колькі было патрачана, – больш важнае тое, што А.Лукашэнка прысутнічаў на сусветным форуме і правеў там перамовы. Маўляў, ацэньваць усе неабходна па выніках двухбаковых перамоваў і па тым, якія дакументы будуць падпісаныя.

Па словах П.Латушкі, падчас "Саміта Тысячагоддзя" Аляксандр Лукашэнка меў перамовы з кіраўніком Алжыра, прэм'ер-міністрам Бангладэш, лідэрам Турцыі і прэзідэнтам Ірана. Пры ўсёй нашай павазе да гэтых краінаў, наўрад ці гэтыя краіны з палітычнага і эканамічнага гледзішча такія важныя для Беларусі, што дзеля гэтай сустрэчы было варта лётаць у Нью-Йорк. Нават калі дадаць Кубу, дзе А.Лукашэнка правёў ажно чатыры дні з афіцыйным візітам, атрымліваецца, хутчэй, што А.Лукашэнка сустракаўся з тымі лідэрамі, хто быў згодны на такую сустрэчу – а такіх засталося ў свеце няшмат.

Канешне, удзел А.Лукашэнкі ў "Саміце Тысячагоддзя" — гэта даволі важны для прэстыжу краіны факт. Аднак прамова, якая ўтрымлівала нападкі на іншыя краіны і NATO, а таксама заўчасны ад'езд дэлегацыі наўрад ці дадалі плюсікаў да рэпутацыі Беларусі і яе кіраўніка на міжнароднай арэне. Хутчэй, наадварот.

Дык для чаго ж было ганяць самалёт па маршруце Мінск-Гавана-Нью-Йорк-Мінск (мінімальны кошт такога пералёту – 100 000 долараў)? Для чаго ў ЗША, паводле інфармацыі з нашых крыніцаў, ледзьве не месяц знаходзілася цэлая група прадстаўнікоў беларускіх спецслужбаў, якая рыхтавала гэты візіт?

Можа, для пяці хвілінаў трыумфу "Я кажу, а мяне слухае ўвесь свет"? Але тыя пяць хвілінаў даўно скончыліся, і ўсё вярнулася на свае месцы.

*«Наша Свабода»*

# Знайдзі розніцу паміж здымкамі

Амаль палову першай старонкі нумара за 8 верасня газета "Советская Белоруссия" адвяла фота ўсіх кіраўнікоў дэлегацыяў на ААНаўскім "Саміце Тысячагоддзя", дзе Аляксандр Лукашэнка апынуўся першым злева ў першым шэрагу.

Але ў той жа дзень і Наша СВАБОДА, і "Белорусская деловая газета" апублікавалі тое самае афіцыйнае фота, ды там быў яшчэ адзін чалавек. У светлым нацыянальным строі злева ад Лукашэнкі стаіць нейкі чарнаскуры лідэр.З нейкіх расісцкіх меркаванняў газета "СБ" не толькі адрэзала ўсе левыя плечы людзей з вышэйшых шэрагаў на фота, але і замалявала чорным той фрагмент светлага адзення, што меў застацца каля А.Лукашэнкі. Падобным чынам фотаздымкі на Беларусі не рэтушавалі са сталінскіх часоў.

*«Наша Свабода»*



**Фота, апублікаванае ў газеце "Советская Белоруссия"**



**Афіцыйнае фота (Неабрэзанае)**

# Аргкамітэт Маршу Свабоды падаў заяву ўладам

**У чацвер, 7 верасня, адбылося першае паседжанне аргкамітэта па правядзенні Маршу Свабоды. Старшынёй аргкамітэта быў абраны адзін з найбольш паважаных беларускіх палітыкаў – Юры Хадыка.**




На прэс-канферэнцыі, прысвечаной гэтай падзеі, было заяўлена, што Марш Свабоды павінен адбыцца ў Мінску 1 кастрычніка 2000 г. Заяву на правядзенне маршу падпісалі болей за сто лідэраў і актывістаў дэмакратычных партыяў і рухаў. Прызначана таксама месца і час збору ўдзельнікаў акцыі – Акадэмія навук, 12 гадзінаў дня. Удзельнікі мяркуюць прайсці па праспекце Скарыны да плошчы Незалежнасці, дзе павінен адбыцца мітынг. Арганізатары ацанілі колькасць удзельнікаў акцыі ў 100 тысяч чалавек. Сёння, 8 верасня, сябры аргкамітэта перададуць заяўку на правядзенне акцыі гарадскім уладам для ўзгаднення маршруту і часу.

Арганізатары акрэслілі мэты Маршу Свабоды: за справядлівыя выбары супраць выбарчага фарсу. Удзельнікам Маршу Свабоды даецца магчымасць сказаць свае "не" фарсу і падтрымаць байкот, арганізаваны дэмакратычнымі сіламі краіны.

Маршы Свабоды, якія прайшлі восенню 1999 і вясной 2000 года, былі самымі масавымі акцыямі пратэсту, якія праводзіла беларуская апазіцыя ў апошнія гады.

*«Наша Свабода»*

# Секретные материалы

***Данные о выплате зарплаты в стране президенту высылали в Нью-Йорк по электронной почте.***

Истек срок, отведенный правительству для погашения задолженности по зарплате. После того как к августу этот долг достиг рекордных за последние два года размеров, а бастовать кое-где начали даже сверхтерпеливые доярки и механизаторы, президент разгневался и взялся за дело сам. Руководителям, которые не рассчитаются со своими работниками до первого дня осени, он пригрозил лишением постов и административной ответственностью, а тем, кто попытается скрыть долги, — уголовной. Контроль за столь деликатным (особенно накануне выборов) делом глава государства не стал доверять одному лишь Министерству статистики. По распоряжению главы государства с 1 по 5 сентября армия контролеров "перелопачивала" документацию на предприятиях и в колхозах, выискивая приписки и искажения отчетности.

Обычно статистические данные о задолженности по заработной плате "подбиваются" к концу месяца. Однако вплоть до 5 сентября отчеты все еще "находились на рассмотрении" у министра статистики. Беспристрастные и абсолютно понятные цифры почему-то потребовали долгого осмысления. Первым ознакомиться с обобщенными статданными предстояло руководителю государства. Как сообщил глава пресс-службы администрации президента Дмитрий Жук, доклад комиссии планировалось выслать Александру Лукашенко 6 августа по электронной почте прямо в Нью-Йорк, где глава Беларуси принимал участие в "саммите тысячелетия". И пока президент жертвовал отпущенным на общение с международной общественностью драгоценным временем и изучал положение дел с выплатой зарплаты каждому белорусскому рабочему и колхознику, тайна расчетов с трудовым народом свято охранялась в Комитете государственного контроля. Тем не менее, как стало известно корреспонденту "БДГ", к назначенному сроку свести долги по зарплате к нулю не удалось. Однако надо отдать должное руководителям предприятий и местным властям — благодаря их нечеловеческим усилиям в течение августа задолженность удалось сократить с Byb 27,5 млрд до Byb 536,7 млн. В результате долг на 1 сентября составлял всего 0,3% от общего фонда оплаты труда в стране. На начало августа он достигал 17%. Для Беларуси, где более или менее своевременная выплата зарплаты была предметом особой гордости властей, этот показатель можно было считать катастрофическим.

Итак, подытожим. Как стало известно "БДГ", в "час икс" общереспубликанский долг по зарплате составил более полумиллиарда рублей. Как ни странно, самым крупным должником оказалась Гродненская область — Byb 136,3 млн. За ней шла Минская область — Byb 116,2 млн, затем Минск — Byb 110,1 млн, далее по убывающей — Гомельская, Могилевская и Брестская. Витебщина вообще



отрапортовала о полной выплате долгов. Задолженность гасили лихорадочно. Только за один день, 31 августа, Гомельщина сократила долги почти в три раза, Гродненская область — и того больше.

Впрочем, признаем: все это — уже мелочи. Конечно, вполне возможно, что многие руководители лишатся своих постов, будут оштрафованы, публично уличены в сокрытии долгов и искажении отчетности, в общем, показательный "шмон" устроить нетрудно. Только вряд ли он что-либо изменит.

Чудес не бывает. Зарплату выплатили благодаря субсидиям из местных бюджетов и краткосрочным банковским кредитам, которые скоро придется возвращать. И в это же время — платить людям зарплату за август, сентябрь и т.д. Колхозы и совхозы вновь остались без ГСМ — товарные кредиты исчерпаны, а деньги ушли на зарплату. Там, где денег не было (а это большинство хозяйств), зарплату выдавали свежесобранным зерном. Кстати, чиновников Минсельхозпрода

---

## Наша Свабода Новости

✍ **Міністэрства замежных справаў Ісландыі абвергла паведамленне мінскага агенцтва "Інтэрфакс-Захад" ад 2 верасня з Рэйк'явіка пра тое, што Аляксандр Лукашэнка па шляху на Кубу "обсудил комплекс вопросов, связанных с белорусско-исландскими отношениями, в ходе переговоров с вице-премьером правительства Исландии Хатлдором Аусгримссоном".**

У спецыяльнай заяве, дасланай у агенцтва "Ю.С.Ньюс", пасол Гунар Гунарсан піша: "Прэзідэнт Беларусі не сустракаўся з міністрам замежных справаў Ісландыі Хатлдорам Аўсгрымсанам. Лукашэнку сустрэлі ў аэрапорце толькі чыноўнікі міністэрства замежных справаў". Пасол Гунарсан падкрэсліў, што А.Лукашэнка знаходзіўся на зямлі Ісландыі ўсяго паўтары гадзіны.

Выглядае, што сам Лукашэнка або ягоны рупар "Інтэрфакс-Захад" у чарговы раз увялі ў зман міжнародную грамадскасць, жадаючы паведаміць пра афіцыйную сустрэчу беларускага кіраўніка з высокім прадстаўніком еўрапейскай дзяржавы, хоць такой сустрэчы не было. Зрэшты, эксперты не выключаюць магчымасці, што беларуская дэлегацыя пераблытала ісландскія прозвішчы, а пан Лукашэнка правёў перамовы з нейкім дробным чыноўнікам МЗС Ісландыі, думаючы, што гэта віцэ-прэм'ер.

✍ **Аб'яднаная грамадзянская партыя распачынае восеньскую пікетовую кампанію, у якую ўвойдуць у тым ліку пікеты за байкот восеньскіх выбараў.** Па новым, хаця і непрызнаным Еўропай, выбарчым заканадаўстве дазвол на пікет "супраць усіх" прасіць не трэба. Аднак неабходна за тры дні паведаміць пра пікетаванне ў мясцовы аддзел міліцыі і ў мясцовую выбарчую камісію. А пасля пікетуй сабе на тэрыторыі выбарчага ўчастка колькі заўгодна. Рабіць гэта можна будзе аж да трынаццатага кастрычніка.

Першы пікет прайшоў 7 верасня на плошчы Бангалор у Мінску пад лозунгам "Сапраўдным выбарам – так, фарсу – не!"

уже предупредили, что выплата августовской зарплаты задерживается как минимум на 10 дней...

Брестский завод бытовой химии, Барановичский завод станкопринадлежностей, могилевский "Зенит", Минский приборостроительный завод и многие другие предприятия погасили долги только благодаря целевым кредитам государства. Грозя директорам кнутом, власти сами же и помогли избежать удара. Потому что понимают — не виноваты директора. У них продукция мертвым грузом лежит на складах, с ними не расплачиваются потребители услуг, в том числе само государство. Если больше трети предприятий убыточны, о какой зарплате может идти речь? Председатели колхозов думают только о том, как им погасить полученные под зерно авансы, товарные кредиты, купить солярку и запчасти к разваливающимся на глазах комбайнам. Поэтому, видимо, и не стало из кожи вон лезть руководство борисовских хрустального завода и швейной фабрики, ГП "Монолит" и еще 12 предприятий Минска и Минской области...(Список можно продолжить, только нужно ли?) Все это — данные проверки, проведенной Госинспекцией по труду совместно с профсоюзами. По ее результатам были оштрафованы многие директора. Но даже сами проверяющие признают, что все эти административные меры — не выход.

Впрочем, не все методы уже испробованы. Еще не лишали зарплаты высших государственных чиновников и не увольняли "провинившихся" директоров. И нам почему-то кажется, что при "разборе полетов" президент предпочтет как раз последний способ.

***«БДГ»***

# "Возьму в аренду "Мерседес". Президент"

***Такое невозможно в Беларуси, но происходит в Латвии.***

**Весь сентябрь президент Латвии Вайра Вике-Фрейберга будет ездить на арендованной автомашине, так как ее 9-летний "Мерседес-Бенц 500" находится на ремонте.**

Латвийский президент только что вернулась из отпуска, который она по приглашению украинского коллеги Леонида Кучмы провела в Крыму. "Чтобы госпожа президент могла из своей юрмальской резиденции приехать в свою рабочую резиденцию в Рижском замке, нужно арендовать автомобиль", — рассказала журналистам пресс-секретарь президента Латвии Айва Розенберга.



Дело в том, что постоянный служебный автомобиль главы латвийского государства 1991 года выпуска находится на ремонте в ООО "Домениксс" – у официального дилера концерна "ДаймлерКрайслер" в Латвии. Фирма, видя техническое состояние часто ломающегося президентского лимузина, предложила бесплатно предоставить в аренду "Мерседес" на 7 лет новее.

А.Розенберга сообщила, что, пока президент Латвии будет ездить во взятой напрокат машине, ее канцелярия будет решать "автомобильную проблему президента, чтобы обеспечить ей нормальные условия работы". По мнению газеты "Ригас балсс", единственным выходом может быть покупка новой автомашины, однако, как сказала А.Розенберга, "в бюджете деньги на покупку нового автомобиля не предусмотрены, их нужно запрашивать отдельно".

На дверцах президентского "Мерседеса" серого цвета уже давно имеются вмятины, которые появились, когда главой государства был еще Гунтис Улманис. Еще тогда возникла идея купить президенту Латвии новую машину, но официально такое предложение сделано не было. А в прошлом году главный "Мерседес" Латвии сбил в соседней Литве корову, что, конечно, не улучшило техническое состояние машины.

По данным агентства "Ю.С.-Ньюс", за два последних месяца автомобиль президента находился в ремонте 5 раз, что потребовало примерно 2 тысячи латов (около 3.300 долларов) из бюджета президентской канцелярии. Личного автомобился у В.Вике-Фрейберги нет.

В 1999 году канцелярия президента Латвии уже запрашивала средства на покупку нового бронеавтомобиля в размере 90 тысяч латов (150 тысяч долларов). Но по причине сложного состояния бюджета деньги не были выделены. В адрес президента тогда прозвучали упреки в прессе в связи с тем, что она думает о новом автомобиле, когда в стране напряженное финансовое положение.

***«Наша Свабода»***

✍ **Нямецкая кампанія *Deutsche Telekom* паведаміла пра спыненне прыёму і адпраўкі любых міжнародных тэлеграмаў.** На думку кіраўніцтва кампаніі, гэтая паслуга стала абсалютна нерэнтабельнай у эпоху факсаў і электроннай пошты. І гэта сапраўды так. Як паведамілі эксперты, сёлета ў кампаніі было ўсяго 70.000 кліентаў на гэтую паслугу, а яшчэ летась (і пазалетась) іх было каля 1.700.000 чалавек. Яшчэ адным аргументам на карысць спынення знешніх тэлеграфных стасункаў стала істотная розніца ў коштах. Да прыкладу, тэлеграма ў 20 словаў каштуе ў Германіі каля 20 марак (амаль 10 долараў), факс – менш за марку, а электронная пошта – яшчэ менш. Сучасныя сродкі сувязі дазволілі дастаўляць інфармацыю хутчэй і прасцей, чым раней. Тэлеграмы сталіся больш неактуальнымі.

Тым не менш, кіраўніцтва *Deutsche Telekom* паведаміла, што для Беларусі, Расіі і Украіны будзе зробленае выключэнне. Гэта звязанае з тым, што ўзровень жыцця ў нашых краінах яшчэ вельмі нізкі, і таму далёка не кожны можа дазволіць сабе мець факс або электронную пошту. Так што для нас усё застаецца па-ранейшаму. Права на жыццё пакуль пакінулі і ўнутрыгерманскім тэлеграмам – паштальёны *Deutsche Post* будуць спраўна разносіць іх.

✍ **4 верасня завяршыўся прыём дакументаў ад патэнцыяльных кандыдатаў у дэпутаты палаты прадстаўнікоў.**

Да 14 верасня Цэнтральная выбарчая камісія разам з акруговымі будуць вывучаць сапраўднасць пададзеных дакументаў і рэгістраваць прэтэндэнтаў кандыдатамі ў дэпутаты альбо адмаўляць у рэгістрацыі.

Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына назвала цяперашні этап выбарчай кампаніі "самым драматычным". Паводле падлікаў ЦВК, на адно дэпутацкае крэсла прэтэндуюць амаль восем чалавек. Акруговыя камісіі атрымалі дакументы ад 769 магчымых кандыдатаў, хаця пакетаў дакументаў, пададзеных у акруговыя камісіі, дасягнула 972. Такая "двайная бухгалтэрыя" тлумачыцца тым, што многія вылучалі сваю кандыдатуру двума, а то і трыма магчымымі шляхамі.

Найбольшую актыўнасць у вылучэнні кандыдатаў прадэманстравалі Ліберальна-дэмакратычная партыя з 109 прэтэндэнтамі, Партыя камуністаў Беларуская Сяргея Калякіна – 73 чалавекі, Камуністычная партыя Віктара Чыкіна – 48 чалавек.

# Байкот выбараў – законнае права грамадзянаў Беларусі

**Кампанія Дэмакратычных сілаў Беласусі па байкоце восеньскіх "выбараў у палату прадстаўнікоў" набірае абароты. Група незалежных юрыстаў падрыхтавала спэцыяльнае юрыдычнае заключэньне аб праве беларускіх грамадзянаў на байкатаваньне.**

Агульныя рамкі прававога рэгуляваньня пытаньня аб байкатаваньні выбараў усталяваныя ў міжнародным праве, у прыватнасьці, ва Усеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека і ў Міжнародным Пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах. Гэтыя міжнародныя дакумэнты прадугледжваюць права грамадзяніна галасаваць і быць абраным на сапраўдных дэмакратычных выбарах, што забясьпечваюць свабоднае выказваньне волі выбарнікаў (арт. 21 Дэклярацыі і арт. 25 Пакта).

Цяперашняя Канстытуцыя замацоўвае права грамадзянаў Рэспублікі Беларусь свабодна выбіраць і быць абранымі ў дзяржаўныя органы на падставе ўвеагульнага, роўнага, прамога альбо ўскоснага выбарчага права пры таямнічым галасаваньні (арт. 35 Канстытуцыі). У адпаведнасьці з арт. 65 цяперашняй Канстытуцыі выбары зьяўляюцца свабоднымі, выбарнік асабіста вырашае – ці удзельнічаць яму ў выбарах і за каго галасаваць. Такім чынам, удзел грамадзянаў Рэспублікі Беларусь у выбарах зьяўляецца іх правам, а не абавязкам.

З улікам вышэйзгаданых міжнародных і канстытуцыйных нормаў Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь прадугледжвае тэрмін "байкатаваньне выбараў" у главе 10 "Перадвыбарная агітацыя, агітацыя па рэфэрэндуме, адкліканьні дэпутата, члена Рады Рэспублікі". Так, арт. 45 усталёўвае, што "агітацыя (у тым ліку заклікі да байкатаваньня выбараў, рэфэрэндума) у дзень галасавання не дапускаецца". З сэнса гэтае нормы вынікае, што заклікі да байкатаваньня выбараў зьяўляюцца адной з законных нормаў перадвыбарнай агітацыі, забароненыя яны толькі ў дзень галасавання, а ў астатні час такая дзейнасьць ня цягне за сабой адказнасьці (ні адміністрацыйнай, ні крымінальнай). Само ж байкатаваньне выбараў выбарнікамі павінна разглядацца ў якасьці абнаго са спосабаў вольнага выказваньня волі грамадзянаў у адносінах да рэалізацыі іх выбарчых правоў.

Дарэчы, старшыня афўцыйнага Цэнтрвыбаркама Ярмошына на прэсавай канфэрэнцыі 18 жніўня заявіла практычна тое самае:

Байкот выбараў зараз, па законе, не караецца. З Выбарчага кодэкса выключаная адказнасьць за заклікі да байкоту. Такія заклікі, як і любая агітацыя, забараняюцца толькі ў дзень галасаваньня.

***«Хартыя'97»***

# Памятка ўдзельніка актыўнага байкота

1. Збор подпісаў не падпадае пад адміністратыўную адказнасьць. Таму ўсе затрыманьні за збор подпісаў зьяўляюцца незаконымі і павінны абскарджвацца ў органах пракуратуры альбо судзе у адпаведнасьці з Арт. 246 КаАП РБ (калі вы ня ведаеце, як гэта робіцца, мы дапаможам вам гэта зрабіць).

2. Да адміністратыўнай адказнасьці могуць прыцягнуць за "*распаўсюджваньне друкаванай прадукцыі, якая выраблена з парушэньнем устаноўленага парадку і ня мае выходных дадзеных, зьмест якой накіраваны на прычыненьне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму парадку*". Гэта Арт. 172 КаАП РБ. Ён прадугледжвае адміністратыўнае спагнаньне ў выглядзе папярэджаньня альбо штрафу ў памеры 5 мін. заробкаў. Гэты штраф Вам будзе кампенсаваны!

3. Калі Вас затрымала міліцыя, вы павінны ведаць, што:

- у выніку адміністратыўнага затрыманьня складаецца пратакол адміністратыўнага затрыманьня і пратакол аб адміністратыўным правапарушэньні. Вас павінны азнаёміць з пратаколамі. Вы маеце права падпісаць альбо не падпісваць іх, пісаць ці не пісаць уласныя тлумачэньні. Заўседы памятайце, што даказваць віну павінны яны, а ня Вы.
- час адміністратыўнага затрыманьня пачынаецца з моманту дастаўкі ў памяшканьне РАУС ці іншае службовае памяшканьне. Час адміністратыўнага затрыманьня можа працягвацца ня больш за 3 гадзіны. Калі затрыманьне працягваецца больш за тры гадзіны, патрабуйце неадкладнага складаньня пратакола і абавязкова запішыце гэта ў пратаколе, а таксама неадкладна напішыце скаргу на імя начальніка РАУС і ў раённую пракуратуру.
- справу аб адміністратыўным правапарушэньні па Арт. 172 КаАП РБ разглядаюць толькі адміністратыўныя камісіі пры раённых адміністрацыях. Да адміністратыўнай адказнасьці можна прыцягнуць на працягу двух месяцаў з моманту здзяйсьненьня адміністратыўнага правапарушэньня.
- пры разглядзе справы вы маеце права заяўляць хадайніцтвы, прадастаўляць доказы, задаваць пытаньні сьведкам, знаёміцца з матэрыяламі справы, карыстацца паслугамі адваката.

**Аб усіх выпадках затрыманьня неадкладна паведамляйце па т. 2134352 у Менску, ці на пэйджэр т. 2118585, абанент 8082.**

---

**Студэнт аднаго зь менскіх ВНУ Аляксандар Кадукоў быў арыштаваны ўдзень 4 верасьня за распаўсюджваньне ўлётак "Байкот-2000". Арыштаванага даставілі спачатку ў міліцыю для складаньня пратакола, а потым у суд, дзе хуценька прысудзілі па артыкуле 167 заўвага 3 – (заклікі да байкота выбараў) – штраф у 5200 рублёў.**

Сваімі дзеяньнямі міліцыянты і суд грубым чынам парушылі заканадаўства. Па-першае, пратакол за ўлёткі з заклікам да байкатаваньня складаць нельга – гэта можна зрабіць толькі пасьля заключэньня мясцовага Выбаркама. Па-другое, прысуд Кадукову таксама незаконны – з сапраўднага Выбарчага кодэксу выключаныя пакараньні за заклік да байкатаваньня, больш за тое – байкот выбараў прызнаны законным правам грамадзяніна. Гэта, прычым, неаднаразова падкрэсьлівалася самымі рознымі дзяржчыноўнікамі – ад старшыні Цэнтрвыбаркама Ярмошынай, да намесьніка міністра замежных справаў Мартынава.

Дзеяньні міліцыі і судовых органаў будуць абскарджаныя ў судзе. А пакуль у вядомасьць пра тое, што здарылася пастаўленыя прадстаўнікі заходніх амбасадаў і КНГ АБСЭ у Менску.

# Могилу будут дырявить

**Воинский обычай гласит: нельзя оставлять тела погибших на месте их гибели. Если есть хоть малейшая возможность, мертвые должны быть погребены со всеми положенными почестями. И, как бы оправдываясь за свою беспомощность в операции по спасению АПЛ "Курск", высшее военно-политическое руководство России строит теперь планы по эвакуации тел погибших моряков из их братский могилы под серыми волнами Баренцева моря. Теперь это не только гражданский долг власти перед людьми, ее защищавшими, но и вопрос политического престижа.**

Главный конструктор санкт-петербургского ЦКБ "Рубин" Игорь Спасский поведал, как, по его мнению, будет происходить извлечение тел из погибшей лодки. Для этого придется прорезать во всех помещениях лодки отверстия размером 1,5 на 0,7 метров, через которые глубоководные водолазы извлекут трупы. Браво, типично российский подход к задаче: с помощью кувалды и такой-то матери!

Представьте себе: на глубине 108 метров люди, одетые в тяжелые скафандры, вскрывают корпус лодки. А это вам не банка консервная, и даже не "Жигули"! Толщина прочного корпуса подводной лодки местами достигает нескольких сантиметров, и не стали, а в случае с "Курском" — легированного титана. Чем собираются пилить такие отверстия? Ведь газовым резакам этот материал поддается с большим трудом. И как определили необходимый диаметр эвакуационных отверстий? Да простят нам читатели страшные подробности, захлебываясь водой, человек умирает в агонии, а конвульсивные сокращения мышц придают телам невообразимые позы.

Еще одна опасность: радиация. Даже если пока дозиметры не фиксируют превышения фона, это ничего не значит. А вдруг погибших придется извлекать из реакторного отсека, где могут находиться поврежденные "котлы"? Пусть застойная радиоактивная вода не проникает за обшивку корабля, но как только отсек будет вскрыт, водолаз неизбежно получит колоссальную дозу облучения. Конечно, существуют индивидуальные защитные комплекты, но они тяжелы и громоздки. Навешивать же противорадиационную "броню" на тяжеловодолазный скафандр представляется полным безумием.

Да и где взять водолазов, коли их не было на момент аварии? Конечно, российские спасатели пройдут стажировку на норвежском спасательном судне. Кроме того, в группе спасателей из трех человек будет и один норвежец. Но скажите Бога ради, многому ли можно научиться за две недели, отведенные на стажировку? И кроме того, сами норвежцы в корпус лодки не пойдут, будут страховать действия россиян из водолазного колокола. Как это понимать? Наверное, западные военные трезво оценивают степень опасности, которой подвергается водолаз при подобном способе действий.

И еще одно настораживает. Официальные источники утверждают, что подъем самой лодки будет осуществляться российской стороной без технического содействия Запада, но, возможно, при его финансовом участии. То есть: не хотите реактор под носом — гоните бабки, а мы уж сами разберемся. При этом никаких подробностей о способах подъема атомохода не сообщается — только сроки начала операции и примерная стоимость! Типа, президент в курсе, и того достаточно. А есть ли такой способ, коим можно поднять полностью затопленную субмарину водоизмещением 24 тысячи тонн? Конечно, англичанам удалось поднять немецкую эскадру, затопленную в Скапа-Флоу в конце Первой мировой войны, а там и потяжелее кораблики были. Можно вспомнить и блестящую деятельность советской организации ЭПРОН, вернувшей РККФ не один корабль, в том числе и подводные лодки. Но во всех упомянутых случаях корпуса затонувших кораблей сначала герметизировались, затем продувались воздухом, и после этого буксировались к берегу. Но как обеспечить плавучесть субмарины, зияющей метровыми дырами? Этого пока не знает никто.

*«Наша Свабода»*

# What is your name? Belarus!

Як называецца наша краіна? Беларусь. Ад двух слоў: Белая Русь. Што, здаецца, незразумелага? Як напісана, так і гавары. Але вось расейцам вельмі хочацца называць нашу сінявокую Белорусcіяй. (Такая дыскусія распачалася ў некаторых нашых газетах). Гэтак, маўляў, у іх прынята. Яны, нібыта, гэтак гістарычна называлі нас і гэтак называць будуць, бо слова "Беларусь" імі дрэнна вымаўляецца, артыкуляцыя замінае, язык не паварочваецца, маскоўскія папы не дазваляюць. Не адпавядае, каб вы ведалі, іхнім правілам граматыкі…

Дык у мяне адразу пытанне: што гэта за славяне, якія пасля гэтага называюць сябе рускімі? Уявіце сабе: рускім людзям цяжка вымаўляць слова "Русь"! Абсурд, як той казаў. Мабыць, яны сябе з некім блытаюць. Мусіць, з мангола-татарамі, у каторых артыкуляцыя іншая. Або з яшчэ якім дзікім азіяцкім народам, які саромеецца называцца сваім сапраўдным прозвішчам, бо яно кампраметуе тысячагадовую Імперыю.

Ну й добра! Хай яны сабе ў сваей Масковіі называюць нас Белоруссіяй, абы не звягалі і сядзелі ціхенька. Так яно, сапраўды, болей падобна на слова "Россія". (Дарэчы, чыё гэта слова? Хіба яно рускае?) Яно іх цешыць і грэе: ёсць вялікая, "ісцінная" Россія, а ёсць маленькая і несамастойная БелоРоссія. Ну, хай сабе цешацца. Бо ім жа вельмі нялегка пазбавіцца свайго імперскага комплексу, трэба ж і гэта разумець. Мы павінны быць далікатнымі. І паспачуваць ім трэба, і дапамагчы як псіхіятры. Гэта пройдзе з цягам часу.

Але вось жа дзіва: яны ўжо нахабна так патрабуюць, каб мы самі сябе называлі Белоруссіяй. Насмеліліся, наступаюць і голас падаюць. Называй сябе, маўляў, не беларусам, а беларусцам! Дык можа вам, "ребята", і палы памыць у вашай бруднай хаце, а? Вы зусім ужо згубілі пачуццё рэальнасці. Мусіць думаеце, што тут усе спрэс адны лукашэнкі? А калі мы пачнем вас гістарычна называць? У нас што ні казка, дык у ей – маскаль. Што ні показка, то кацап. Млосна будзе, калі ўсю гісторыю ўспомнім.

Беларусы мы. А краіна наша – БЕ-ЛА-РУСЬ. BE-LA-RUS! Сябе вы можаце не паважаць і называць, як вам заўгодна. А нас называйце так, як мы вас просім. Інакш "ісцінная" дружба ў нас не атрымаецца. Do you understand?

*«Наша Свабода»*

Президенту Лукашенко очень нравилось защищать от супостата мирное небо России. Не ест Лукашенко, не спит – бдит: уж не полощет ли чёрными крылами какой Змей Горыныч в сторону Москвы? И стоило малейшей тени приблизиться к границе — Лукашенко тотчас вскакивал на спицу, разворачивался к Кремлю и кричал: "Путин! Эй! Чирик-куку! Царствуй, лёжа на боку!"

За это Лукашенко в Кремле очень ценили и каждый день кормили отборным зерном, газом и электричеством. Потому как заслужил, ничего не скажешь.



Сели один раз президенты СНГ выпить и закусить. Кучма принёс вареники, Лукашенко — рассыпчатую бульбу, Каримов — лепешки, Путин — вологодское масло, Шеварднадзе — зелень, Алиев — плов, Ниязов — баранину. Бутылку должен был ставить Назарбаев, потому что его очередь подошла. Все сидят, ждут – приходит Назарбаев с канистрой литров на десять. Все страшно обрадовались, а Назарбаев говорит:

– Страна у меня бедная. Вот, съездил на Байконур, нацедил там из двигателей технического спиртика в счет погашения российского долга. Уж не взыщите, братцы.

Все давились, плевались, но канистру досуха выцедили.



Падчас саміту ў А.Лукашэнкі не запланавана ніякіх двухбаковых кантактаў з лідэрамі развітых краінаў – але ен заўседы можа падпільнаваць Біла Клінтана або Герхарда Шродэра і дзве хвіліны ціскаць таму руку. А потым беларускія дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі будуць тры дні крычаць пра неверагодныя поспехі краіны на міжнароднай арэне.






У Праваабарончы цэнтар "Вясна" практычна кожны дзень зьвяртаюцца затрыманыя за заклікі да байкота. 6 верасьня зьвярнуўся Аляксей Андросаў, які ў сваёй заяве напісаў: "Нас затрымалі, калі я і мой сябра Г.Прыходзька раскідвалі ўлёткі "Байкот-2000" па паштовых скрынках. Нас абшукалі, знайшлі ў нас улёткі павялі ў пастарунак. Нам інкрымінавалі арт. 143.3 КоАП РБ (антысанітарыя)".

# Палёт пад мостам на перавернутым самалёце

У Літве чэмпіён свету па вышэйшым пілатажы Юргіс Кайрыс учыніў вельмі рызыкоўны пралет пад мостам на перавернутым дагары самалёце. Такога не рабіў яшчэ ніхто. Паглядзець на смяротны трук прыехаў нават чэмпіён свету па аўтагонках *Formula 1* Міка Хакінен.

Падзея адбывалася ў Каўнасе. Напярэдадні Юргіс Кайрыс – сусветна вядомы пілот-каскадзёр — правеў прэс-канферэнцыю, на якой паведаміў, што збіраецца ўстанавіць сусветны рэкорд: праляцець на перавернутым дагары спартыўным самалеце пад пешаходным мостам імя караля Міндоўга. Гэты мост звязвае дзве часткі горада.



Для пералёту выкарыстоўваўся расійскі самалёт СУ-26. У прызначаны дзень побач з мостам сабраліся ледзьве не ўсе жыхары горада, а таксама шматлікія госці. Спярша Ю.Кайрыс учыніў просты пралет пад мостам, не перакульваючы самалет. Прасвет паміж вадой і металёвымі канструкцыямі моста, дарэчы, складае ўсяго 10 метраў.

Пасля пілот перавярнуў СУ-26 і зрабіў некалькі спробаў пралёту. У рэшце рэшт Ю.Кайрысу ўдалося паставіць сусветны рэкорд.

Калі ўсе скончылася, госцю з Фінляндыі Міку Хакінену ў якасці выключэння дазволілі пасядзець у кабіне пілота. Яму, відавочна, спадабалася.

Упершыню за апошнія шэсьць год расейскія стратэгічныя бамбардзіроўшчыкі, здольныя несьці ядзерную зброю, прызямліліся на беларускія аэрадромы. Адбылося гэта 7 верасьня з межах каманднa-штабнай трэніроўкі з органамі кіраўніцтва і чарговымі сіламі краінаў-удзельніцаў Аб'яднанае сыстэмы ПВА. У адрозьненьні ад беларускіх вайскоўцаў, іх расейскія калегі ня сталі ўтойваць гэты факт, паведамляе БелаПАН. Па інфармацыі расейскага боку, пара стратэгічных ракетаносцаў Ту-95МС ажыцьцявіла пасадку з аэрадрома "Мачулішчы" пад Менскам, а пара звышгукавых бамбардзіроўшчыкаў Ту-22М3 – з аэрадрома "Баранавічі".

Самалёты далекай авіяцыі Расеі былі выведзеныя зь Беларусі ў 1994 годзе. Да гэтага яны базаваліся на некалькіх аэрадромах, якія месьцяцца ў розных рэгіёнах рэспублікі. Напрыклад, полк, узброены Ту-22, мясьціўся ў Мачулішчах. Калі ў канцы вясны-пачатку лета 1994 года пачаўся ягоны вывад у Расею, камандзір адной эскадрыльлі напісаў верш, у якім былі такія радкі:

*«...Прости нас, белорусская земля.*
*Не мы тебя с Россией разделили.*
*Мы как Россию берегли тебя*
*И как Россию мы тебя любили...»*



Бюлетэнь «Грамадзянскі форум»
Заснавальнік
АРМА «Грамадзянскі форум»

Выдаецца на беларускай і рускай мове. Перыядычнасць - 2 разы ў месяц
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі. Выдадзена накладам 299 асобнікаў
Выдадзена пры дабрачыннай падтрымцы Гасадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша»
Фонда «Альянс Каўнтэрпарт», Камісіі па Дэмакраці - Амбасады ЗША ў Беларусі
Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША)
Адрас для пошты: 231100, Ашмяны-3, а/я 63. E-mail: Civil_Forum@mailru.com